

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 1 (студзень), 2015

# Мяжа



**Былы фермер: Улада баіцца прыватніка, як чорт ладану**

(старонка 9)

## ЗЬМЕСТ

# Брэст: аштрафаны журналіст абскарджвае рашэнне суда



Незалежны журналіст Алесь Ляўчук падаў скаргу на рашэнне суда Ленінскага раёна Брэста, які 24 снежня мінулага года пакараў фрылансера штрафам ў памеры 40 базавых велічынь.

У пастанове суда гаворыцца, што Ляўчук пакараны “за парушэнне парадку вырабу і распаўсюджвання прадукцыі СМІ” (такім парушэннем суд палічыў размяшчэнне відэароліка на сайце БелСат).

У сваёй скарзе Алесь Ляўчук адзначае, што нязгодны з гэтай пастановай паводле некалькіх падстаў. У прыватнасці, паводле журналіста, пры разглядзе справы аб адміністрацыйным правапарушэнні суд не высвятліў усіх абставін гэтай справы (не было ўстаноўлена, ці было здзейснена адміністрацыйнае правапарушэнне і ці падлягае асоба, прыцягнутая па справе, да адміністрацыйнай адказнасці). Акрамя таго, паводле меркавання Алеся Ляўчука, высновы суда, пакладзеныя ў выніковую пастанову, супярэчаць матэрыялам справы і прывялі да ўжывання судом артыкула Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, які ўсталёўвае адказнасць не для журналістаў, а для рэдакцый СМІ і распаўсюднікаў прадукцыі СМІ.

Журналіст таксама сцвярджае, што суд праігнараваў парушэнні, якія былі здзейснены пры складанні пратаколааб адміністрацыйным правапарушэнні (Ляўчук не быў выкліканы ў міліцыю позвай, я к гэта патрабуе закон, а сам пратакол складзены з грубымі парушэннямі працэсуальнага заканадаўства). На падставе гэтых ды іншых

выкладзеных у скарзе высноваў Алесь Ляўчук просіць адмяніць пастанову суда Ленінскага раёна г.Брэста і спыніць справу аб адміністрацыйным правапарушэнні.

http://spring96.org/be/news/75005

## Брэст: пададзены заяўкі на правядзенне 18 пікетаў супраць эканамічнай палітыкі ўладаў Беларусі



Старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек

Ініцытыва правядзення амаль двух дзесяткаў масавых мерапрыемстваў належыць мясцовым актывістам Аб' яднанай грамадзянскай партыі і прыхільнікам дэмакратычных пераменаў у краіне.

Паводле слоў кіраўніка Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзіміра Вуека, падставай для таго, каб ладзіць пікетаванне, з'яўляецца чарговы валютна-фінансавы крызіс ў Беларусі, які сведчыць пра бяздарную палітыку ўрада. “У такіх умовах варта патрабаваць адстаўкі кіраўніка дзяржавы, які нясе персанальную адказнасць за дзеянні падпарадкаваных яму галінаў выканаўчай улады і асабіста вінаваты ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі ў краіне”, - зазначыў Вуек.

Заяўкі на пікеты, якія мяркуецца правесці 17 студзеня, ужо пададзены ў Брэсцкі гарвыканкам. Сярод месцаў, дзе актывісты АГП плануюць ладзіць масавыя мерапрыемствы, пазначаны як дазволеныя ўладамі пляцоўкі, так і іншыя месцы, што знаходзяцца каля буйных гандлёвых аб'ектаў альбо на цэнтральных вуліцах горада.

http://spring96.org/be/news/74955

# У Берасьці ўсклалі кветкі да францускага консуляту




Берасьцейскія актывісты «Гавары праўду» і БСДП(Г) усклалі кветкі да Ганаровага консуляту Францыі з нагоды тэракту ў Парыжы.

Актывісты запалілі лямпадкі, ушанавалі загінулых хвілінай маўчаньня, а таксама перадалі ў консулят ліст са спачуваньнямі.

«Мы прыйшлі выказаць сваю салідарнасьць з народам Францыі. Свабода слова — адна з галоўных каштоўнасьцяў дэмакратыі. Францыя — адна з тых краінаў, якія першымі абвясьцілі свабоду слова. Трэба быць салідарнымі з журналістамі, якіх перасьледуюць і нават пазбаўляюць жыцьця. Бо, на жаль, шмат дзе ў сьвеце ёсьць праявы ганеньняў супраць тых, хто распаўсюджвае інфармацыю», — распавёў першы намесьнік БСДП(Г) зь Берасьця Ігар Маслоўскі.

7 студзеня ў Парыжы ў рэдакцыі газэты Charlie Hebdo здарыўся тэракт, у выніку якога загінулі 12 чалавек — 10 журналістаў і 2 паліцэйскіх. Яшчэ каля дзесяці чалавек былі параненыя.

У Францыі абвешчаная жалоба, па ўсім сьвеце адбываюцца акцыі салідарнасьці з газэтай Charlie Hebdo.

http://www.svaboda.org/content/article/26784948.html

## Мікалаю Статкевічу не змянілі рэжым адбыцця пакарання

Палітвязню Мікалаю Статкевічу не змянілі рэжым адбыцця пакарання. Пра гэта ён паведаміў у лісце сваёй жонцы Марыне Адамовіч. На думку адміністрацыі шклоўскай калоніі, ён „не стаў на шлях выпраўлення”. „16-га студзеня выклікалі на камісію па замене рэжыму. Гэта праводзіцца без усялякіх заяў ад арыштантаў — калі тэрмін прыйдзе, — піша Статкевіч. — Вынік чаканы, але здзівіла фармулёўка. Палітвязень „не стаў на шлях выпраўлення”, таму што „не ўдзельнічаў у працы самадзейных арганізацый” і „ўхіляўся ад грамадскай працы”.

„Безумоўна, на такі шлях я не стаў, бо невінаватаму чалавеку гэта без патрэбы. А вось як у адзіночцы весці „грамадскую працу” і „ўдзельнічаць у арганізацыях — гэта пытанне”, — іранізуе ў лісце Статкевіч.

Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікалай Статкевіч адбывае пакаранне шасці гадоў пазбаўлення волі па абвінавачанні ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19-га снежня 2010 года.

http://www.racyja.com/palityka/mikalayu-statkevichu-ne-zmyanili-rezhym-a/

## Мікалай Статкевіч правёў у турме 1 500 дзён

Палітвязень прадаўжае знаходзіцца ў каранціне.

Пра гэта напісала ў «Фэйсбуку» ягоная жонка Марына Адамовіч.

Яна таксама паведаміла, што Мікалай Статкевіч да гэтага часу знаходзіцца ў каранціне.

«Яго не выводзяць нават на расчыстку снегу, каб не кантактаваў з іншымі зняволенымі», - паведаміла яна.

Нагадаем, у траўні 2011 года суд Ленінскага раёна Менска прыгаварыў Статкевіча да шасці гадоў пазбаўлення волі праз абвінавачванне ў нібыта арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Першапачаткова апазіцыйны палітык утрымліваўся ў шклоўскай калоніі № 17, аднак у студзені 2012 года яму зрабілі болей жорсткімі ўмовы адбыцця пакарання, і перавялі на тры гады ў магілёўскую турму № 4. Гэты

тэрмін скончыўся 12 студзеня 2015 года.

Статкевіч быў пераведзены з магілёўскай турмы № 4 у шклоўскую калонію № 17 13 студзеня. За першыя два дні знаходжання ў шклоўскай калоніі ў дачыненні да Мікалая Статкевіча былі складзеныя два рапарты нібыта за парушэнне правіл унутранага распарадку. Палітык быў змешчаны ў каранцін.

http://charter97.org/be/news/2015/1/27/137152/

## Віктар Сырыца: Мы верылі ў адраджэнне роднай мовы




26-га студзеня 1990-га года Вярхоўным Саветам БССР быў прыняты Закон аб мовах, які ўпершыню ў найноўшай гісторыі замацоўваў за беларускай мовай статус адзінай дзяржаўнай.

Беларуская інтэлігенцыя была вельмі рада адраджэнню роднай мовы і мела вялікія надзеі, якія, на жаль, не збыліся, кажа кіраўнік Баранавіцкай філіі Таварыства беларускай мовы Віктар Сырыца.

- Тады мы шчыра спадзяваліся, што па-сапраўднаму бларуская мова адродзіцца і будзе панаваць у школах, ВНУ, яе будуць ведаць людзі. Такі рамантычны перыяд быў у нашым жыцці, але ўсё вельмі хутка скончылася. Надышоў гэты ганебны рэферэндум, які не даў магчымасці развівацца роднай мове. Расейская мова ізноў запанавала.

У траўні 95-га года першы прэзідэнт Беларусі Аляксандр

Лукашэнка ініцыяваў рэферэндум, які надаў расейскай мове статус дзяржаўнай, замяніў бел-чырвона-белы сцяг і “Пагоню” на перапрацаваную савецкую сімволіку ды зацвердзіў эканамічную інтэграцыю з Расеяй.

http://www.racyja.com/hramadstva/viktar-syrytsa-my-shchyra-veryli-u-adradzh/

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйныя скаргі журналістаў Алеся Ляўчука і Тамары Шчапёткінай




Суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма не задаволіла касацыйныя скаргі незалежных журналістаў Алеся Ляўчука і Тамары Шчапёткінай, якія па абвінавачанні ў парушэнні ч. 2 арт. 22.9 КаАП у снежні 2014 года былі аштрафаваны на 40 і 30 базавых велічынь адпаведна.

Пры гэтым журналісты былі абвінавачаны ў супрацоўніцтве з замежнымі СМІ без акрэдытцыі, хаця змест артыкула, у парушэнні якога яны былі прызнаны судом Ленінскага раёна Брэста (Алесь Ляўчук) і судом Бярозаўскага раёна (Тамара Шчапёткіна) вінаватымі, іншы: парушэнне ўстаноўленага парадку рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў перыядычных друкаваных выданняў, распаўсюд эратычных выданняў, апублікаванні сродкам масавай інфармацыі абвяржэння, а роўна незаконны выраб і (або)распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. Менавіта апошні выраз: незаконны выраб і (ці) распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі суддзі трактавалі як працу без акрэдытацыі.

Па меркаванні юрыста БАЖ Андрэя Бастунца, якое ён агучыў у часопісе “Абажур”, апошняя частка артыкула азначае незаконны выраб і распаўсюд менавіта сродкаў масавай інфармацыі, да чаго журналіст не мае дачынення, паколькі ён займаецца зборам, рэдагаваннем і стварэннем інфармацыі для рэдакцыі. Прадукцыю СМІ вырабляе рэдакцыя, і толькі яна можа дапусціць парушэнні вырабу прадукцыі СМІ, але не журналіст.

Гэтую пазіцыю спрабавалі давесці да Наталлі Сурмы журналісты Алесь Ляўчук і Тамара Шчапёткіна, але суддзя вырашыла, што суды першай інстанцыі далі належную ацэнку сабраным матэрыялам і прыйшлі да абгрунтаванай высновы аб здзяйсненні правапарушэння па арт 22.9 ч. 2 КаАП.

Журналісты намераны абскардзіць рашэнне Брэсцкага абласнога суда.

http://spring96.org/be/news/75237

## Былы фермер: Улада баіцца прыватніка, як чорт ладану



Сельская гаспадарка ў Беларусі за 20 гадоў незалежнасці застаецца стратнай галіной прамысловасці, як гэта было і ў савецкі час. Перавага аддаецца ўсё тым жа калгасам.

У той час, як да фермерскіх гаспадарак адносіны з боку ўлады больш жорсткія, кажа былы фермер, уладальнік вялікай дапаможнай гаспадаркі Аляксандр Бяльчук:

- Бухгалтара трымай, дакументы ўсе складай і гэта на 25 гектарах зямлі. Дайце пустое памяшканне фермы – васямнаццаць памяшканняў у нас у вёсцы стаіць. На прыёме старшыня дзяржкаммаёмасці Кузняцоў даў каманду: „Дайце вы яму, няхай працуе". Раённыя ўлады – не і ўсё: разбяром, закапаем, але не дадзім.

Паводле фермера, цяперашняй уладзе не патрэбны прыватнік, і нават небяспечны для яе:

- Яна баіцца прыватніка, як чорт ладану. Чым будзеш кіраваць, калі ўсе будуць прыватнікамі? А так прадыктаваў цэны на малако 3600, а манапаліст зарабляе грошы – 15 тысяч, 12 тысяч абястлушчанае малако прадае. Сказаў за карову, за кілаграм 17

тысяч, будзь добры здавай на мясакамбінат, а калбаса па 170.

Цяпер Аляксандр Бяльчук, маючы 57 гектараў зямлі, і 40 галоў буйной рагатай жывёлы, падпадае пад закон пра так званых „дармаедаў”. Таму што праца ў дапаможнай гаспадарцы не залічваецца ў працоўны стаж.

http://www.racyja.com/ekanomika/byly-fermer-ulada-baitstsa-pryvatnika-ya/

## “Брэсцкае права” – у Баранавічах і раёне



Выйшаў чарговы нумар праваабарончага бюлетэня “Брэсцкае права”. На гэты раз выданне, якое традыцыйна распаўсюджваецца ня толькі ў абласным цэнтры, але і раёнах Брэсцкай вобласці, было прэзентавана сярод жыхароў Баранавічаў і ваколіц гэтага горада.

Як паведаміў актывіст праваабарончага руху Валянцін Лазарэнкаў (на фота), апошні нумар бюлетэня “Брэсцкае права” прысвечаны падзеям, што былі прымеркаваны для Дня правоў чалавека. “10 снежня мінулага года ў Брэсце адбыўся адзіны дазволены ў Беларусі пікет, на якім ўзгадвалася не толькі пра правы чалавека ўвогуле, але і пра лёс цяперашніх палітычных вязняў у нашай краіне, - нагадаў Лазарэнкаў. – Акрамя таго, да чарговай гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека быў прымеркаваны адмысловы “круглы стол”, дзе актуальныя праблемы абмяркоўвалі не толькі праваабаронцы, але і прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый і незалежных прафсаюзаў”.

На старонках бюлетэня разам з паведамленнямі пра падзеі ў рэгіёне і хронікай парушэнняў правоў чалавека змешчаны парады юрыстаў і нумары тэлефонаў, куды жыхары вобласці могуць звяртацца, каб атрымаць бясплатную юрыдычную кансультацыю ў выпадку парушэнняў сваіх правоў.

http://spring96.org/be/news/75159

## Брэст: на грамадскага актывіста Андрэя Шарэнду ў міліцыіі склалі два пратаколы

Як распавёў сам Андрэй Шарэнда, ён быў затрыманы 16 студзеня супрацоўнікамі АМАПу ў тралейбусе. Міліцыянты заявілі, што актывіст нібыта падобны на чалавека, які здзейсніў правапарушэнне, і адвезлі Шарэнду ў Маскоўскі РАУС горада Брэста.

Там на затрыманага спачатку склалі пратакол паводле артыкула 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэнняў (дробнае хуліганства), а пасля яшчэ адзін пратакол па артыкуле 21.14 гэтага ж Кодэксу (парушэнне правіл добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў). Другое правапарушэнне нібыта палягае ў тым, што Андрэй Шарэнда расклейваў улёткі з партрэтамі зніклых у Беларусі палітыкаў і вядомых людзей.

З міліцэйскага пастарунку Шарэнду адвезлі ў суд Маскоўскага раёна Брэста, дзе павінны былі разглядаць яго справу за дробнае хуліганства. Аднак, азнаёміўшыся з матэрыяламі справы, суддзя накіравала іх на дапрацоўку ў Маскоўскі РАУС, а самога актывіста адпусцілі дадому

Праваабаронца Раман Кісляк, што ў дадзеным выпадку размова можа ісці пра адвольнае затрыманне. “Такім чынам супрацоўнікі праваахоўных структур хочуць збіць хвалю расклейвання партрэтаў зніклых палітыкаў і вядомых людзей: гэтая акцыя адбываецца 16 чысла кожнага месяца на вуліцах горада”, - паведаміў Кісляк.

http://spring96.org/be/news/75126

## Актывісты Берасця дабіліся будаўніцтва дзіцячага гарадка

Берасцейскія грамадскія актывісты дамагліся будаўніцтва дзіцячага гарадка ў мікрараёне Усход. Адказ ад гарадскіх уладаў пра з’яўленне такога аб’екту атрымалі прадстаўнікі кампаніі ’’Гавары Праўду!’’. Актывісты накіроўвалі зварот, пад якім пакінулі свае подпісы больш за тысячу грамадзян, – расказвае адна з ініцыятараў звароту Ганна Канюс:

- Гэта нас абнадзейвае, хоць нам хацелася б ведаць канкрэтныя тэрміны выканання работ. Практыка паказвае, што збор подпісаў і

прыцягненне грамадзян да вырашэння такіх пытанняў паскарае працэс і робіць яго на карысць жыхароў горада. Таму, магчыма, і атрымаўся такі вынік.

У 2013 годзе ўлады далі грамадзянам адмоўны адказ, і спасларіся на пошук інвестараў для будаўніцтва «Гарадскога курорта». У сваім адказе гарадскі выканаўчы камітэт паведамляў, што ёсць планы ўпарадкавання горада на базе існага фізкультурна-аздараўленчага комплексу і тэрыторыі Дзіцячага гарадка. Аднак праект так і ня быў рэалізаваны.

http://www.racyja.com/hramadstva/aktyvisty-berastsya-dabilisya-budaunits/

## Касацыйная скарга Тамары Шчапёткінай будзе разгледжана 22 студзеня



17 снежня незалежная журналістка Тамара Шчапёткіна была пакарана судом Бярозаўскага раёна штрафам у 30 базавых велічынь па абвінавачанні ў парушэнніч.2 арт 22.9 КаАП РБ. У пастанове аб накладанні адміністрацыйнага спагнання за подпісам суддзі Наталлі Вакульчык указваецца, што Тамара Шчапёткіна прыцягнута да адказнасці за здзяйсненне прафесійнай дзейнасці журналіста замежных сродкаў масавай інфармацыі без акрэдытацыі. Разам з тым, у ч.2. арт 22.9 КаАП гаворыцца пра выраб і распаўсюд сродкаў масавай інфармацыі, чаго незалежная журналістка не здзяйсняла.

Падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці Тамары Шчапёткінай стала інтэрвью з загадчыкам Цэнтральнай аптэкі Бярозы Алегам Казюпай “Чаго чакаць ад пастановы Міністэрства аховы здароўя № 66”, якоебыло размешчана на сайце “Беларускага Радыё Рацыя”. Інфармацыя датычылася новых правіл продажу лекаў.

Суд не ўлічыў, што Т. Шчапёткіна не звязана працоўнай дамовай

з “Беларускім Радыё Рацыя”, чаго патрабуе п.6 арт 1 Закона “Аб СМІ”.

Незалежная журналістка лічыць, што парушана яе права на збор і распаўсюд інфармацыі, гарантаванае арт.34 Канстытуцыі РБ і арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

http://spring96.org/be/news/75076

## Планы прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці ў Берасці

Удзел у прэзідэнцкай кампаніі, фармаванне каманды валанцёраў і назіральнікаў, абарона сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян – такія асноўныя планы прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці ў Берасці.

Старшыня абласной арганізацыі партыі левых ’’Справядлівы свет’’ Леанід Майструк упэўнены, што сёлета павінны быць два прыярытэтныя напрамкі:

- Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў правядзенне абласной справаздачна-выбарчай канферэнцыі і выбары дэлегатаў на з’езд, які будзе канчаткова вырашаць пытанні – удзелу ці няўдзелу нашага кандыдата ў прэзідэнцкіх выбарах. Другая важная праблема – гэта назіранне ў межах справядлівых выбараў.

Старшыня берасцейскай абласной арганізацыі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Маслоўскі лічыць, што прыярытэтам у дзейнасці павінна стаць абарона правоў – простых грамадзян Беларусі:

- Прыярытэтным будзе абарона сацыяльна-эканамічных правоў грамадзянаў у Беларусі гэат будзе звязана з крызісам, які зараз адываецца ў фінансавай галіне, і далей гэты крызіс пяройдзе на ўсе сферы жыцця беларусаў. Мы мяркуем гэта і беспрацоўе, гэта і павышэнне коштаў на тавары і паслугі і зніжэнне рэальных заробкаў.

У бліжэйшы час на Берасцейшчыне з’явіцца каманда валанцёраў, якія возьмуць удзел у прэзідэнцкай кампаніі 2015 году. Яны будуць збіраць подпісы, удзельнічаць у мерапрыемствах у падтрымку кандыдатаў у прэзідэнты ад дэмакратычнай супольнасці, распаўсюджваць літаратуру і гэтык далей.

http://www.racyja.com/palityka/plany-pradstaunikou-demakratychnaj-s/

## Чарговы прысуд журналісту-фрылансеру



Аліна Літвінчук аштрафаваная на 30 базавых велічынь. Такое рашэнне прыняў суд Ленінскага раёна Берасця. Аліну абвінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыі. Размова ідзе пра матэрыял пра дзейнасць Берасцейскага абласнога аддзялення арганізацыі “Хрысціянская супольнасць дарослых і моладзі”, змешчаны на сайце нашага Беларускага Радыё Рацыя.

Суддзя – Святаслаў Каліна, а ў якасці сведкі выступаў прадстаўнік названай арганізацыі Аляксандр Драчук, расказвае журналістка Аліна Літвінчук:

- Гэты сведка з’яўляецца прадстаўніком дэмакратычнай супольнасці, ён прадстаўляе міжнародную арганізацыю “Хрысціянская супольнасць дарослых і моладзі”, якая дэкларуе еўрапейскія дэмакратычныя каштоўнасці. Спачатку, калі толькі заводзілася гэтая справа, ён выступаў заяўнікам. Але з часам, паколькі справа зацягнулася, яго перакваліфікавалі ў сведку.

Сведка ў судзе сказаў, што не памятае, якім чынам Аліна Літвінчук магла запісаць інфармацыю. Сама Аліна адмовілася ад дачы паказанняў. Яна расказала, што суд нават не выходзіў для абмеркавання і прыняцця рашэння, паколькі меў ужо загадзя падрыхтаваную пастанову:

- Было бачна, што суду не важныя мае адказы, яго не цікавіла пазіцыя сведкі, бо гэта ніякім чынам не паўплывала на рашэнне, якое суд падрыхтаваў. Гэтае рашэнне палітычна матываванае, паколькі Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе ўсім грамадзянам права на збор і распаўсюд інфармацыі.

Аліна Літвінчук плануе абскарджваць прысуд і гатовая прайсці

ўсе судовыя інстанцыі, а нават звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

http://www.racyja.com/hramadstva/chargovy-prysud-zhurnalistu-frylanser/

## Брэсцкі абласны суд пакінуў скаргу Алеся Меха без задавальненьня



15 студзеня Брэсцкі абласны суд пакінуў касацыйную скаргу грамадскага актывіста з Кобрыня Алеся Меха без задавальненьня. Нагадаем, што Алесь Мех быў пакараны штрафам у 1,5 мільёны рублёў судом Кобрынскага раёна за ўшанаванне памяці Кастуся Каліноўскага і яго загінулых паплечнікаў ў Свіслачы.

Алесь Мех перакананы, што ягоныя правы на мірны сход парушаныя, і мае намер адстойваць свае правы да канца: "Кожны грамадзянін Беларусі мусіць шанаваць памяць сваіх слаўных продкаў і мае адзначаць важныя гістарычныя дзеі свайго народа, адной з якіх з'яўляецца паўстаньне Каліноўскага!"

## Беларускія талеры: фантазія «Нашай Нівы»

«Вы прасілі талеры — я дам вам талеры». Канцэпт падобных да еўра беларускіх рублёў выклікаў цікаўнасць у байнэце, але ў каментарах на НН чытачы пыталіся, чаму рублі, а не талеры. Што ж, прапануем свой канцэпт.

Насамрэч, беларускія талеры існавалі, хай нядоўга і неафіцыйна. Пра тое, як з'явіліся талеры пры Кебічы, падрабязна распавядаў «Нашай Ніве» ў далёкім 1998-м Севярын Квяткоўскі. На жаль, выявы на серверы «Нашай Нівы» не захаваліся, затое захаваліся, напрыклад, у КП. Дарэчы, увесці талеры прапаноўваў Рыгор Костусеў у перадвыбарчай праграме 2010 года. Талеры «увялі» і на моладзевым адукацыйным фэсце «Рэспубліка Мары».

Трэба паміж іншым сказаць: аўтар «талераў НН» не мастак і не

дызайнер. Створаныя талеры, безумоўна, не паспрачаюцца ў якасці, прадуманасці ды акуратнасці з канцэптам Рамана Дубінкі. У сваё апраўданне: перад стварэннем купюр аўтар праглядаў разнастайныя падборкі «найпрыгажэйшых валют свету» ды гартаў Каталог папяровых грошай свету.

Але і ствараліся яны з іншай мэтай. Проста каб пафантазіраваць, як выглядалі б беларускія грошы, завіся яны талерамі і будзь на іх не будынкі і не звяраты, а выбітныя беларускія дзеячы. Абраць толькі восем дзеячоў было няпроста. Дапамог топ імёнаў Беларусі ад «Будзьма!».




http://nn.by/?c=ar&i=142010

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»